ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 144 (5326)
Субота, 15 снежня 2001 года
Кошт у розніцу — 84 руб.



На зімовых прасторах.

**Фота Уладзіміра АМЯЛЬЯНЧЫКА.**

Дабрачыннасць

## Хворым дзецям - нашыя сэрцы

***18 снежня ў Палацы дзяцей і моладзі Мінска адбудуцца ўрачыстасці, прысвечаныя адкрыццю акцыі "Хворым дзецям - нашыя сэрцы".***

Ужо дзесяты раз праводзіць яе ў нашай краіне Беларускі дзіцячы фонд. Заўсёды акцыя прымяркоўваецца да Каляд і Новага года, каб падарыць адчуванне радасці і святла дзецям-сіротам, інвалідам, ВІЧ-інфіцыраваным дзецям, што падчас гэтых святаў знаходзяцца ў бальніцах ці, з-за цяжкага захворвання, навучаюцца дома.

Менавіта 18 снежня ў Палацы дзяцей і моладзі пройдзе казачны спектакль для двухсот дзяцей, якія знаходзяцца пад апекай і жывуць у Цэнтральным і Партызанскім раёнах сталіцы, для дзяцей, што выхоўваюцца ў дзіцячых дамах сямейнага тыпу, дзяцей воінаў, што загінулі пры выкананні службовага абавязку. Дзіцячы фонд падрыхтаваў для іх свае падарункі.

Акцыя будзе доўжыцца месяц, на працягу якога плануецца наведаць тысячы беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак, якія знаходзяцца ў дзіцячым аддзяленні анкадыспансера, апёкавым аддзяленні бальніцы хуткай дапамогі, дзіцячым аддзяленні нейрахірургіі дзевятай клінічнай бальніцы, дзіцячым аддзяленні кардыялогіі, Дзіцячым хірургічным цэнтры, Дзіцячай інфекцыйнай бальніцы і інш. Наведваць іх з прадстаўнікамі Дзіцячага фонду будуць Дзед Мароз са Снягуркай, казачныя персанажы. У святочных ранішніках прымуць удзел валанцёры Дзіцячага фонду - студэнты Беларускага універсітэта культуры, Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Танка, артысты тэатра эстраднай песні Таццяны Моўчан і іншыя.

Такім чынам за дзесяць гадоў больш як 150 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак сустрэлі зімовыя святы з віншаваннямі і падарункамі Дзіцячага фонду.

"Самае галоўнае ў Калядных святах, - кажуць прадстаўнікі фонду, - атмасфера дабрыні і радасці. І каб яе стварыць, трэба дапамагчы слабаму, падзяліцца з бедным, суцешыць засмучанага. І ў гэтым знайсці шчасце".

**Вольга ЗАЙКІНА.**

Падзеі

## Святочны расклад

***Днямі Чацвёртая мінская нацыянальная гімназія адзначыла свой чарговы дзень нараджэння. Сёлета ёй споўнілася адзінаццаць гадоў. Дата хоць і не круглая, але, як гаворыцца, была б нагода.***

Дзень нараджэння - свята, якое заўсёды суправаджаецца віншаваннямі, падарункамі, прыходам гасцей і, безумоўна, сюрпрызамі. Усе гэтыя атрыбуты прысутнічалі і на святкаванні адзінаццацігоддзя гімназіі. Але ўсё па парадку.

Свята пачалося з самай раніцы - а 8-й гадзіне. Дзіўна, канешне, але не для вучняў і настаўнікаў 4-й гімназіі - традыцыйных заняткаў у гэты дзень няма. Святкаваць дык святкаваць! А "расклад" урачыстасцей усё ж такі нагадваў расклад урокаў.

Першы ўрок - спектакль па творах Максіма Багдановіча, які паставіў гімназічны тэатр-студыя. Лірычны і вельмі сур'ёзны пачатак, але, як вядома, самыя цяжкія прадметы заўсёды ставяцца першымі. Галава яшчэ не затлумлена, успрыняцце "новых ведаў" -найбольшае.

Другі ўрок - кірмаш, галоўнымі ўдзельнікамі якога сталі вучні 5-6 класаў. Гэта ўжо не так сур'ёзна, як спектакль, дакладней, зусім не сур'ёзна. Песні, танцы, жарты, мора ўсмешак і вельмі танныя тавары. Ну, дзе вы зможаце купіць пачастункі за пяцьдзесят рублёў! Толькі на школьным кірмашы. Ды яшчэ і патаргавацца можна. А пасля гэтага шумнага, ажыўленага кірмашу я трапіла на чарговую ўрачыстасць.

Трэці ўрок - пасвячэнне ў гімназісты. Тры пятыя класы (108 чалавек) сталі галоўнымі героямі гэтай цырымоніі. Быць гімназістамі - гонар і самапавага. Гэта разумеюць пяцікласнікі, бо з пачуццём вялікай годнасці прымалі яны гімназічныя білеты з рук свайго дырэктара Юрыя Міхайлавіча Бандарэнкі.

Чацвёрты ўрок - інтэлектуальны. Ён аб'яднаў васьмікласнікаў гульнёй "Што? Дзе? Калі?", тут расслабляцца і забаўляцца не было калі. Дух спаборніцтва лунаў у паветры больш гадзіны. Хто ж будзе першы? Але каманды не ўступалі адна адной.

Пяты і шосты ўрок прыйшлося аб'яднаць, бо ўрачысты канцэрт у адну гадзіну ніяк не змесціцца. Звычайна на апошніх уроках думаць не хочацца, ды ўжо і не можацца, а ў святочны дзень рабіць гэта зусім неабавязкова. Са сцэны "гучалі" і "чуліся" падарункі. Спачатку ад саміх гімназістаў. Яны спявалі, танчылі, паказвалі свае акцёрскія здольнасці. Потым пачалі прымаць "падарункі" ад гасцей. Суседняя 201-я сярэдняя школа і яе ўзорны хор "Фэст" павіншавалі імянінніцу сваімі прафесійнымі спевамі. Дарэчы, "Фэст" з'яўляецца лаўрэатам міжнародных фестываляў "Ялта-2001", "Славянскі базар-2001".

Дзень нараджэння гімназіі скончыўся сюрпрызам - выступленнем прафесара, народнага артыста СССР, кампазітара Ігара Міхайлавіча Лучанка, які нават на цымбалах змузыцыраваў.

**P.S.** *Урокі скончыліся, свята таксама, а гімназія працягвае сваю дзейнасць. Сёння ў 4-й гімназіі вучыцца 916 дзяцей, працуе 110 настаўнікаў. Навучанне вядзецца ў чатырох напрамках - фізіка-матэматычным, хіміка-біялагічным, эканамічным і філалагічным (філалагічны англа-нямецкі і філалагічны англа-польскі). Асаблівая ўвага надаецца выхаванню. У гімназіі ёсць Цэнтр нацыянальнай культуры, музей "Мой родны кут", клуб старшакласнікаў "Сузор'е". А такімі справамі, як песні і танцы, займаюцца ўсе гімназісты.*

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

## Мы разам

***Праблемы са здароўем, абмежаванасць фізічных магчымасцей не павінны ствараць неадольнага бар'ера паміж людзьмі, перашкаджаць ім быць разам. У гэтым упэўнены ўдзельнікі свята "Мы разам!", што прайшло ў Мінску.***

Тут сабраліся студэнты Белдзяржуніверсітэта - у тым ліку і тыя, хто мае інваліднасць. На працягу некалькіх гадзін яны ў іграваой форме абмяркоўвалі пытанні камунікацыі, лепшага ўзаемаразумення. Яны сцвярджаюць, што неабходна пазбаўляцца двухбаковых негатыўных стэрэатыпаў, якія перашкаджаюць цеплыні і непасрэднасці ўзаемін.

Былі прызы, салодкія ласункі, падарункі. Сустрэча адбылася па ініцыятыве грамадскай арганізацыі "Розныя-роўныя" і Прафкама студэнтаў БДУ пры падтрымцы Саюза жанчын БДУ.

Дарэчы, сёння на розных факультэтах Белдзяржуніверсітэта, па словах старшыні Прафкама гэтай навучальнай установы Ніны Радзевіч, атрымліваюць адукацыю пяцьдзесят інвалідаў. Усе яны забяспечаны пакоямі ў інтэрнатах з найлепшымі ўмовамі пражывання, рэгулярна атрымліваюць грашовую дапамогу і пуцёўкі на санаторна-курортнае лячэнне. Але ж самае галоўнае для іх - псіхалагічная падтрымка, сацыяльная рэабілітацыя. І свята, праведзенае "Рознымі-роўнымі" - якраз чарговы крок у гэтым кірунку.

**Вольга ЗАЙКІНА.**

***Улетку, калі мы гутарылі з намеснікам міністра адукацыі П.Дз.Кухарчыкам па пытаннях уступнай кампаніі, тады дамовіліся зноў сустрэцца для інтэрв'ю ўвосень. Цяпер Пётр Дзмітрыевіч узначальвае Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, але наша дамоўленасць засталася ў сіле. І сёння мы друкуем інтэрв'ю з рэктарам.***

***Пётр КУХАРЧЫК,** рэктар Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь:*

# "Мы абавязаны весці падрыхтоўку прафесіяналаў"

**- Пётр Дзмітрыевіч, у Міністэрстве адукацыі Вы курыравалі вышэйшую школу. Натуральна, на пасадзе рэктара Вам не прыйшлося асвойваць новыя гарызонты. Верагодна, наадварот, Вы ўжо намецілі новыя задачы?**

- Пры назначэнні мяне на пасаду рэктара Прэзідэнт нашай краіны паставіў перада мной некалькі задач. Па-першае - прадоўжыць тыя пераўтварэнні, што былі пачаты Пятром Іванавічам Брыгадзіным на пасадзе рэктара акадэміі. Другая задача - шукаць маладых кіраўнікоў не толькі ў сталіцы, але і ў рэгіёнах і ажыццяўляць іх перападрыхтоўку ў нашай акадэміі. І нарэшце, трэцяя задача - прыкласці ўсе намаганні, каб Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь стала адной з вядучых навучальных устаноў краіны. Вось задачы, што трэба вырашаць у бліжэйшы час.

**- Якая структура Акадэміі кіравання?**

- Акадэмія кіравання з'яўляецца шматпрофільнай дзяржаўнай навучальнай установай у галіне падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі кадраў органаў дзяржаўнага кіравання. Зыходзячы з названых напрамкаў навучання выбудавана і структура акадэміі, дзе функцыянуюць чатыры інстытуты і 20 кафедраў.

Інстытут дзяржаўнай службы ажыццяўляе перападрыхтоўку кіруючых кадраў органаў дзяржаўнага кіравання па шырокім спектры спецыяльнасцей і спецыялізацый: дзяржаўнае і мясцовае кіраванне, дзяржаўнае рэгуляванне нацыянальнай эканомікі, кіраванне сацыяльнай сферай, інфармацыйныя тэхналогіі ў дзяржаўным кіраванні, знешняя палітыка і дыпламатыя, міжнародныя эканамічныя адносіны, дзелавое адміністраванне, фінансавы і банкаўскі менеджмент і інш. Усяго мы праводзім перападрыхтоўку па адзінаццаці спецыялізацыях з тэрмінам навучання ад аднаго года на дзённай форме і да 2,5 года на дзённа-завочнай форме навучання. Тут набываюць новую кваліфікацыю работнікі, якія займаюць пасады ад галоўнага спецыяліста да дырэктара прадпрыемства, арганізацыі, міністра.

Інстытут дзяржаўнага кіравання ажыццяўляе падрыхтоўку спецыялістаў, якія маюць базавую сярэднюю і вышэйшую адукацыю, па дзвюх асноўных спецыяльнасцях - "Дзяржаўнае кіраванне і эканоміка", "Дзяржаўнае кіраванне і права". Трэба сказаць, што гэта дастаткова запатрабаваныя ў наш час у рэальнай эканоміцы спецыяльнасці, якія карыстаюцца вялікім попытам у выпускнікоў сярэдніх школ, ліцэяў, каледжаў, а таксама ў людзей, якія маюць вышэйшую адукацыю і жадаюць атрымаць другую вышэйшую адукацыю. Пра тое штогод сведчыць высокі конкурс пры паступленні. Карыстаючыся нагодай, запрашаю абітурыентаў паступаць у Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

У Інстытуце вышэйшых кіраўніцкіх кадраў кіруючыя работнікі дзяржаўных органаў, мясцовых выканаўчых органаў улады праходзяць павышэнне кваліфікацыі па кароткатэрміновых мэтавых праграмах самага шырокага профілю.

Навукова-даследчы інстытут тэорыі і практыкі дзяржаўнага кіравання праводзіць навуковыя даследаванні, распрацоўвае практычныя рэкамендацыі ў галіне дзяржаўнай кадравай палітыкі, сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь.

У структуры Акадэміі кіравання ёсць таксама некалькі цэнтраў, напрыклад, Цэнтр міжнароднага супрацоўніцтва і адукацыйных праграм, Цэнтр інфармацыйных тэхналогій кіравання, Цэнтр псіхалогіі кіравання, Інавацыйны цэнтр і іншыя структурныя падраздзяленні, у тым ліку і 20 спецыялізаваных кафедр.

Як бачыце, структура Акадэміі кіравання - разгалінаваная, але дастаткова стройная і дазваляе забяспечыць усе асноўныя напрамкі яе дзейнасці. Да гэтага трэба дадаць, што ў Акадэміі кіравання сфарміраваны высокакваліфікаваны прафесарска-выкладчыцкі састаў, калектывы навуковых работнікаў і вучэбна-дапаможнага персаналу. Ёсць добраўпарадкаваны інтэрнат і спартыўныя збудаванні.

**- Дзе ВНУ бярэ сваіх патэнцыяльных студэнтаў?**

- Гэтае пытанне я б падзяліў на дзве часткі. Тут гаворка ідзе пра дзве катэгорыі асоб, што вучацца ў Акадэміі кіравання. Гэта - слухачы і студэнты. Што да слухачоў, то рэктаратам сумесна з Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь распрацаваны і ўжо колькі гадоў паспяхова рэалізуецца механізм іх адбору на перападрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі.

Па гэтым пытанні акадэмія самым цесным чынам працуе з міністэрствамі, ведамствамі, абласнымі выканаўчымі камітэтамі, прадпрыемствамі і арганізацыямі. Гэтыя органы рэкамендуюць для навучання ў Акадэміі кіравання кіраўнікоў, якія займаюць дастаткова высокія пасады, знаходзяцца ў рэзерве на павышэнне і маюць патрэбу ва ўдасканаленні ведаў. Вынікі адбору слухачоў замацоўваюцца рашэннем калегій міністэрстваў, абласных выканаўчых камітэтаў. Акрамя таго, будучыя слухачы павінны паспяхова прайсці ўступныя іспыты і конкурсны адбор. Конкурс высокі - больш як два чалавекі на месца.

І другая частка пытання. Нашымі студэнтамі, як я ўжо адзначаў раней, з'яўляюцца выпускнікі сярэдніх школ, ліцэяў, каледжаў з усіх рэгіёнаў рэспублікі, а таксама дзяржаў СНД. Прапрацоўваецца зараз і пытанне навучання грамадзян з далёкага замежжа. З такой ініцыятывай да нас звяртаюцца некаторыя пасольствы і прадстаўніцтвы, акрэдытаваныя ў нашай рэспубліцы.

**- Летась у Акадэміі кіравання прайшоў эксперымент па тэсціраванні сярод абітурыентаў. Наколькі ён быў удалым і ці будзе працягвацца ў далейшым?**

- Строга кажучы, асобныя элементы тэсціравання ў Акадэміі кіравання выкарыстоўваліся і раней. Але ў мінулым годзе прыёмная камісія поўнасцю ўкараніла ў механізм уступных іспытаў сістэму тэсціравання. Пры падрыхтоўцы тэстаў шырока выкарыстоўвалі назапашаны замежны і наш вопыт. Я спынюся толькі на некаторых найбольш важных момантах. Па-першае, выкарыстанне гэтай сістэмы дазволіла стварыць для абітурыентаў спакойную, без асаблівых стрэсаў абстаноўку на ўступных экзаменах.

Па-другое, тэставая сістэма дазволіла павысіць аб'ектыўнасць ацэнкі ведаў абітурыентаў за кошт выкарыстання 100-бальнай шкалы адзнак. Акрамя таго, аб'ектыўнасць ацэнкі ведаў была павышана за кошт выключэння рознага роду суб'ектыўных фактараў, таму што тэсты выконваліся пісьмова. І сам змест тэстаў ахопліваў практычна ўсю школьную праграму, што выключала магчымасць "выцягнуць шчаслівы або нешчаслівы білет".

Выкарыстанне тэсціравання і яго вынікаў дазволіла дакладна ранжыраваць абітурыентаў па ўзроўні ведаў, што практычна не стварыла праблем пры залічэнні студэнтаў. І потым, тэсціраванне - гэта празрыстасць, даступнасць, прастата, падтрыманыя ўсімі абітурыентамі. Укараненне сістэмы тэсціравання знізіла колькасць апеляцый з прычыны аспрэчвання атрыманых адзнак.



Падобная практыка шырока выкарыстоўваецца ва ўсім свеце. І калі мы збіраемся павысіць стандарт нашай адукацыі да сусветнага ўзроўню, неабходна ўключыць адпаведныя методыкі ўжо на стадыі адбору будучых студэнтаў. На апошнім пасяджэнні калегіі Міністэрства адукацыі спецыяльна разглядалася пытанне аб правядзенні тэсціравання, у тым ліку і цэнтралізаванага, аб яго больш шырокім выкарыстанні.

Напрыканцы можна канстатаваць, што эксперымент атрымаўся, і ў наступным годзе мы таксама плануем выкарыстоўваць сістэму тэсціравання абітурыентаў.

**- Якія спецыялісты, на Вашу думку, будуць запатрабаваны ў бліжэйшае дзесяцігоддзе? Якія новыя спецыяльнасці неабходна адкрываць?**

- Аналіз і прагнозы эканамічнага развіцця Беларусі паказваюць, што ў бліжэйшы час будуць запатрабаваны спецыялісты ў галіне інфармацыйных тэхналогій, кіравання, замежных моў, эканомікі, біятэхналогій, медыцыны, некаторых відаў права. Апошнім часам значна павялічылася цікавасць моладзі да прыродазнаўчанавуковых спецыяльнасцей.

Прагнозы - справа няўдзячная. Але тым не менш неабходна мець выразнае ўяўленне пра тое, якія спецыялісты будуць запатрабаваны ў бліжэйшай будучыні. Не сакрэт, што сёння мы маем справу з перавытворчасцю спецыялістаў па асобных галінах ведаў. Гэта стварае праблемы з далейшым працаўладкаваннем выпускнікоў. Тут неабходна збалансаванасць паміж профільнымі ВНУ і колькасцю студэнтаў.

Акадэмія кіравання ў гэтым плане працуе з апераджэннем. Што да перападрыхтоўкі кіруючых кадраў, то штогод тут на аснове аналітычных даследаванняў карэкціруецца наменклатура спецыяльнасцей і спецыялізацый, ідзе работа па ўліку патрэб органаў дзяржаўнага кіравання.

Летась у Акадэміі кіравання ўпершыню правялі прыём па дзвюх новых спецыяльнасцях: "Дзяржаўнае кіраванне і эканоміка", "Дзяржаўнае кіраванне і права". Для іх быў зменены змест вучэбных планаў у адпаведнасці з сучаснымі еўрапейскімі стандартамі.

Ёсць і пэўныя задумкі на наступны год. Цяпер мы ўжо актыўна прапрацоўваем адкрыццё яшчэ адной новай спецыяльнасці - "Інфармацыйныя тэхналогіі ў дзяржаўным кіраванні". Асобныя элементы гэтага напрамку навучання ўжо апрабіраваны ў сістэме перападрыхтоўкі кіруючых кадраў. Актуальнасць гэтай спецыяльнасці - відавочная, бо пастаянна і імкліва павышаецца значэнне інфарматызацыі ва ўсіх сферах дзейнасці, у тым ліку і ў дзяржаўным кіраванні. "Хто валодае інфармацыяй, той валодае светам". Мы абавязаны весці падрыхтоўку прафесіяналаў.

**- Хто сёння больш запатрабаваны - кіраўнікі або выканаўцы?**

- Заўсёды неабходны і тыя і другія. Але цяпер неабходны прафесіяналы высокага класа, якія ўмеюць прымаць рашэнні ва ўмовах няпэўнасці, умеюць разумна рызыкаваць, прымаць нестандартныя рашэнні, валодаюць сучаснымі тэхналогіямі кіравання.

**- Кіраўнікі рознага ўзроўню рана ці позна адчуваюць неабходнасць у атрыманні новых ведаў у галіне кіравання. Якія новыя метады адукацыі Вы можаце сёння прапанаваць?**

- Метады навучання, тэхналогіі навучання, а яны самым цесным чынам звязаны са зместам навучання, - гэта значная праблема, якая патрабуе асобнага сур'ёзнага абмеркавання. Што мы сёння прапануем нашым слухачам і студэнтам? Гэта шырокі спектр актыўных метадаў навучання, гэта Internet і Intranet, гэта - сістэма і тэхналогіі адкрытай адукацыі, гэта - дыстанцыйнае навучанне, гэта - шырокае выкарыстанне інфармацыйных тэхналогій. Для акадэміі самае галоўнае - выхаваць у слухачоў і студэнтаў імкненне вучыцца з максімальнай адказнасцю і самастойнасцю ва ўмовах магчымага мадэлявання рэальных эканамічных сітуацый і ўзмацніць значэнне практыкі.

**- Больш як 40 працэнтаў студэнтаў Акадэміі кіравання - людзі з вышэйшай адукацыяй. Ці ўлічваюцца асаблівасці навучання дарослых? І ці будзе ў далейшым развівацца сістэма другой вышэйшай адукацыі?**

- Натуральна, ёсць спецыфіка навучання дарослых людзей - кваліфікаваных спецыялістаў. Працэс навучання - дыферэнцыяваны і па дыдактычных падыходах, і па псіхалогіі, і па змесце - у залежнасці ад кантынгенту студэнтаў.

Другая адукацыя - гэта дадатковая прафесійная адукацыя. Вопыт паказвае, што сёння ў шэрагу выпадкаў, асабліва для працы ў замежных, сумесных прадпрыемствах, ды і на нашых айчынных прадпрыемствах, кіраўніку, спецыялісту неабходны трывалыя веды па кіраванні, эканоміцы, праву, неабходна добрае веданне замежнай мовы. Атрымаць у рамках адной спецыяльнасці глыбокія веды па комплексу напрамкаў не заўсёды ўяўляецца магчымым. Эканоміка мяняецца імкліва. Адукацыя, якая абслугоўвае яе інтарэсы, - таксама. Патрэба ў атрыманні другой вышэйшай адукацыі сёння не вычарпана яшчэ і таму, што атрыманне першай вышэйшай адукацыі не заўсёды з'яўляецца правільным выбарам маладога чалавека.

**- Ці выкарыстоўваеце замежны вопыт у падрыхтоўцы кіраўнікоў?**

- Безумоўна. Сёння ў ажыццяўленні адукацыйнага працэсу без вывучэння замежнага вопыту немагчыма забяспечыць яго высокі якасны ўзровень. Выкарыстанню замежнага вопыту ў значнай ступені садзейнічаюць усталяваныя кантакты з замежнымі партнёрамі, профільнымі акадэміі адукацыйнымі цэнтрамі Германіі, Італіі, Францыі, Расійскай Федэрацыі, Украіны, Казахстана, Літвы і іншых краін. Сувязі гэтыя - доўгачасовыя, і мы не абмяжоўваемся толькі абменам вопытам, але арганізуем і сумесныя адукацыйныя праекты з удзелам нашых выкладчыкаў і замежных спецыялістаў.

**- Ці запрашаеце для чытання асобных курсаў практыкаў - бізнесменаў, банкіраў, практыкуючых юрыстаў?**

- Тэорыю нельга аддзяляць ад практыкі. У ажыццяўленні вучэбнага працэсу ў Акадэміі кіравання больш, чым у іншых ВНУ, прымаюць удзел кіруючыя работнікі міністэрстваў, арганізацый, у тым ліку Міністэрства эканомікі, Міністэрства фінансаў, Дзяржаўнага падатковага камітэта, Дзяржаўнага мытнага камітэта, судоў - гаспадарчага, канстытуцыйнага, міждзяржаўнага гаспадарчага суда СНД і інш. Формы іх удзелу разнастайныя - работа ў якасці выкладчыкаў па сумяшчальніцтву, арганізацыя дыскусій, "круглых сталоў", навукова-практычных семінараў і інш. Ужо ў снежні перад слухачамі Акадэміі кіравання выступілі старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Г.А.Васілевіч, міністр юстыцыі В.П.Галаванаў, намеснік міністра эканомікі А.М.Тур і іншыя.

Для чытання аўтарскіх курсаў запрашаюцца вядучыя выкладчыкі Германіі, Дыпламатычнай акадэміі Расіі, Акадэміі дзяржаўнай службы пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі.

**- Ці можна назваць Акадэмію кіравання школай міністраў?**

- І так, і не. Тое, што мы навучаем і міністраў, і іх намеснікаў - гэта адзін бок медаля. Другі бок заключаецца ў тым, што мы шчыра верым: нашы выпускнікі - перспектыўныя маладыя людзі, якія валодаюць дапытлівасцю розуму і высокай эрудыцыяй. І чаму б ім з часам не стаць міністрамі?

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

*Паважаныя чытачы!*

**Працягваецца падпіска на першае паўгоддзе 2002 года. Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздруку".**

НАСТАЎНІЦКАЯ газета — выданне асветнікаў Рэспублікі Беларусь

Падпісны кошт на паўгоддзе
для індывідуальных падпісчыкаў — 8400 рублёў;
на квартал — 4200 рублёў;
на месяц — 1400 рублёў.
Па ведамаснай падпісцы: на паўгоддзе — 22800 рублёў; на квартал — 11400 рублёў;
на месяц — 3800 рублёў.
Індэкс для індывідуальнай падпіскі — 63867,
для ведамаснай — 63363.

Наш рэпартаж

# Салют у гонар Ягора Макуты

***На адным з гэтых фотаздымкаў вы бачыце за камп'ютэрам побач з настаўніцай вучня 2 "Б" класа сярэдняй мінскай школы №131 Ягора Макуту. Аб'ектыў фотаапарата злавіў гэты момант вечнасці на ўроку рускай мовы ў камп'ютэрным класе, на жаль, пакуль адзіным у гэтай агульнаадукацыйнай школе сталіцы, дзе вядзецца сістэматычны вучэбны маніторынг. Побач з Ягорам - настаўніца пачатковых класаў Святлана Усеваладаўна Сычова, яна ж - намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце ў пачатковай школе, генератар новых ідэй, дарадца і памочнік дырэктара.***

Так, пачаткоўцам тут пашанцавала! Яны засвойваюць школьную праграму з дапамогай камп'ютэра. І наколькі ім гэта цікава - мы мелі магчымасць пераканацца. Вучні працуюць у лакальнай сетцы. Бачу, як упэўнена адчувае сябе



за камп'ютэрам Ягор Макута, спрытна водзіць мышкай, хутка выводзіць на экран манітора патрэбныя заданні і без памылак, лёгка і прыгожа іх выконвае. Тэма ўрока - словы і словазлучэнні, націск. Калі вучань не зрабіў ніводнай памылкі, як падзяка і ўзнагарода за працу і глыбокія веды ў яго гонар на маніторы, які у такім выпадку высвечваецца зялёным святлом, мільгацяць і сыплюцца цукерачкі, баранкачкі, шапачкі - усё прыемнае для дзіцяці і смачнае, - альбо раптоўна і нечакана прыгожа зазіхаціць шыкоўны рознакаляровы салют. Ты - Ягор, Маша, Насця - малайчына! Салют табе за добрыя веды.

Калі ж вучань зрабіў памылку і, мабыць, не адну, а некалькі, манітор "чырванее", б'е трывогу. Але ў такім выпадку вучань можа адразу зрабіць работу над памылкамі, выправіць іх. Да таго ж камп'ютэр прапануе вучню на "тэму памылак" яшчэ некалькі прыкладаў, каб канчаткова засвоіць тэму і болей не памыляцца, працаваць старанна, каб сумленна зарабіць за свае веды прыгожы салют - вышэйшую адзнаку. Гэты салют - выдатны стымул да працы. Другакласнікі пра яго мараць.

- Вучэбны маніторынг, тое, што мы практыкуем у сваёй школе, - гаворыць дырэктар школы Галіна Міхайлаўна Мартыновіч, - цудоўнае падспор'е як для настаўнікаў і вучняў, так і для бацькоў. Задаволены і дзеці, і дарослыя. Вельмі важна, што такім чынам мы маем цудоўную магчымасць дыягнасціраваць і адначасова выяўляць прабелы ў ведах вучняў. Вучні працуюць у рэжыме карэкцыі самастойна. Ім гэта надзвычай цікава. І мы гэта бачым!

Патлумачым, што, напрыклад, вучэбны комплекс "Матэматыка, пачатковая школа" ахоплівае традыцыйную праграму па матэматыцы 2-4 класаў чатырохгадовай пачатковай школы. Аснову яе складаюць болей сямі тысяч рознаўзроўневых тэставых заданняў. У вучэбным курсе прадугледжаны ўсе раздзелы згодна стандартам, зацверджаным Міністэрствам адукацыі, звыш 900 карэкцыйных і дыягнастычных тэстаў, тэматычных заданняў.

Увогуле, у сярэдняй школе №131, беларускамоўнай, што знаходзіцца на ўскрайку сталіцы (Чыжоўка, Заводскі раён), - назаўсёды прапісалася, жыве і пануе творчасць, якая захапіла і вучняў і настаўнікаў. Школа ўтульная і з густам прыбраная, у асноўным рэчамі, выраблёнымі рукамі ўмельцаў тэхналагічных класаў. Амаль усе новаўвядзенні ў ёй грунтуюцца выключна на энтузіязме дырэктара школы Галіны Міхайлаўны Мартыновіч і настаўнікаў-аднадумцаў, тых, хто яе разумее, падтрымлівае і заўсёды побач.



У дзень, калі мы наведалі школу, акрамя нас тут яшчэ былі госці - слухачы курсаў для настаўнікаў пачатковых класаў Мінскага гарадскога інстытута павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Іх запрасілі на семінар, каб падзяліцца вопытам. Дарэчы, гэта ўжо трэці семінар з пачатку новага навучальнага года. Пачатковая ступень - моцнае звяно ў школе. Паспяхова працуе з пачаткоўцамі маладая і абаяльная Наталля Аляксандраўна Сурымта. Яна ў той дзень была зоркай! Яе 2 "Б" "дзяліўся вопытам" за камп'ютэрамі.

Тут не баяцца эксперыментаваць. Тэма эксперыменту, над якім цяпер працуе педагагічны калектыў - сістэма ацэнкі вынікаў пазнавальнай дзейнасці ў сярэдняй і спецыяльнай адукацыі. Настаўнікі робяць спробы ацэньваць веды вучняў без адзнак. Прыходзяць да высновы, што такая праца - значна складаней і цяжэй, чым ставіць адзнакі вучням. Са школай працуюць псіхолагі з рэспубліканскага псіхалагічнага цэнтра "Дасягненне" - у асобе прафесійнага псіхолага Мікалая Дзмітрыевіча Аляксеева.

Беларускамоўная 131-я - школа шматпрофільная. Профільныя класы пачалі тут ствараць у пачатку дзевяностых. Спачатку паявіўся клас з паглыбленым вывучэннем матэматыкі, затым - эканамічны, некалькі класаў з тэхналагічным ухілам. Ёсць цудоўны харэаграфічны клас, на базе якога створаны ансамбль "Натхненне", якім кіруе Святлана Аляксандраўна Верамей. Калектыў - пераможца шматлікіх конкурсаў, гонар школы.

У мінулым навучальным годзе ў школе адкрыты новы лінгвістычны клас, настаўнікі супрацоўнічаюць з кафедрай англійскай мовы Беларускай політэхнічнай акадэміі.

Аднак на сённяшні дзень самы моцны ўхіл, па словах Галіны Міхайлаўны Мартыновіч, бадай, інфарматыкі і камп'ютэрных тэхналогій. Каго не зацікавіць камп'ютэрная графіка і анімацыя? Вось ужо ёсць і свае героі, пераможцы раённай алімпіяды па інфарматыцы - вучні 9 "Б" класа Аляксандр Касцюшка, Вячаслаў Дзямідаў, Дзіма Лукашонак і Вадзім Соніч, выхаванцы настаўніцы інфарматыкі Святланы Аляксандраўны Сарапінай.



Камп'ютэрны клас у 131-й быў абсталяваны параўнальна нядаўна - у 1998 годзе. Аднак усе ўжо адчуваюць, як сёння гэтага для школы мала. Для пачаткоўцаў пакуль шукаюць "фортачкі", заняткі плануюцца ў другую змену. Словам, школа - у творчым пошуку і марыць пра новы камп'ютэрны клас.

**Святлана БЕНЬ.**

НА ЗДЫМКАХ: вучань 2 "Б" класа сярэдняй школы №131 Ягор Макута і настаўніца пачатковых класаў Святлана Усеваладаўна Сычова; у харэаграфічным - самыя прыгожыя і абаяльныя; здабыткі тэхналагічнага...

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Эксперымент у школе

# "10-бальнай сістэме - быць!"

***Пытанне сістэмы ацэнкі ведаў - не надуманае. Яно вынікае з нашай традыцыйнай, фактычна чатырохбальнай, сістэмы, якая не магла аб'ектыўна адлюстроўваць якасць ведаў, уменняў і навыкаў вучняў, нярэдка ператвараючыся ў трохбальную.***

Трэці навучальны год педагагічны калектыў сярэдняй школы № 9 Слоніма з'яўляецца ўдзельнікам эксперыменту па апрабацыі новай тэхналогіі ацэнкі ведаў, вучэбнай дзейнасці школьнікаў – дзесяцібальнай сістэмы. Выбар гэтага напрамку работы – не выпадковы: з 1998 года, калі пра эксперымент яшчэ не было гаворкі, педагагічны калектыў працаваў ужо над праблемай удасканалення сістэмы ўліку і ацэнкі ведаў. Як ва ўмовах дзеючай пяцібальнай сістэмы дабіцца аб'ектыўнасці? Як у поўнай меры рэалізаваць навучальныя, выхаваўчыя, дыягнастычныя і стымулюючыя функцыі адзнакі? Вырашэнне гэтых праблем мы бачым, па-першае, ва ўдасканаленні форм і метадаў кантролю ведаў, уменняў і навыкаў вучняў, у тым ліку праз выкарыстанне ўзроўневых заданняў. Па-другое – у фарміраванні ў вучняў навыкаў самаацэнкі ўласнай дзейнасці і ацэнкі дзейнасці таварышаў. Распрацаваныя прадметнымі метадычнымі аб'яднаннямі ўзроўневыя тэсты, самастойныя і кантрольныя работы дазволілі больш аб'ектыўна праводзіць прамежкавы і падагульняючы кантроль, больш паспяхова вырашаць пытанні дыферэнцыяванага падыходу, фарміраваць самаацэнку вучняў, даючы ім магчымасць выбару заданняў. Але, разам з тым, яны патрабавалі павелічэння шкалы адзнак, і прапанова гарадскога аддзела адукацыі ўключыцца ў эксперыментальную работу па апрабацыі 10-бальнай сістэмы была вельмі дарэчы.

Па меры правядзення эксперыменту павялічвалася колькасць яго ўдзельнікаў: калі на I этапе ў ім удзельнічалі 118 (19 працэнтаў) вучняў 5-8, 10 класаў і 26 (33 працэнты) педагогаў школы, дык на III этапе яго ўдзельнікам з'яўляецца ўжо ўвесь педагагічны калектыў і калектыў вучняў 5–11 класаў.

Апрабацыя 10-бальнай сістэмы непарыўна звязана з вывучэннем і ўкараненнем у практыку работы сучасных адукацыйных тэхналогій і Дзяржаўнага адукацыйнага стандарту. Яе мы разглядаем як трыадзінае цэлае, таму што менавіта III узровень ацэньвання ведаў закладзены ў адукацыйным стандарце і адпавядае балам 9, 10. А гэта той узровень, які адпавядае самастойнаму, творчаму выкарыстанню ведаў, засвоеных вучнямі ў новай сітуацыі. Прычым творчасць патрабуецца не толькі ад вучняў, але, і ў першую чаргу, ад настаўнікаў. Сёння працаваць толькі па старых метадыках і гаварыць пра арганізацыю творчай дзейнасці вучняў немагчыма. Таму ў практыцы работы настаўнікаў школы – тэхналогіі педагагічных майстэрняў, тэхналогіі вышэйшай школы, асобасна арыентаваныя тэхналогіі, элементы ўзроўневага навучання. Прычым неабходным становіцца не толькі ўзроўневая дыферэнцыяцыя на ўроку, але і дыферэнцыяцыя дамашніх заданняў. На жаль, нашы падручнікі ў гэтым плане недасканалыя: яны не змяшчаюць або змяшчаюць недастаткова ўзроўневых заданняў, задач, практыкаванняў, якія дазваляюць настаўніку без выкарыстання дадатковых крыніц дыферэнцыраваць дамашнія заданні. Хацелася б, каб Нацыянальны інстытут адукацыі, аўтарскія калектывы, якія распрацоўваюць падручнікі, і іншыя зацікаўленыя арганізацыі звярнулі ўвагу на гэтую праблему і пры перавыданні падручнікаў вырашылі яе.

Важным фактарам паспяховасці любой педагагічнай дзейнасці, у тым ліку і эксперыментальнай, з'яўляецца аналіз яе вынікаў. У працэсе маніторынгу выкарыстоўваліся такія дыягнастычныя методыкі, як наведванне ўрокаў і аналіз паспяховасці эфектыўнасці ацэначнай дзейнасці настаўніка, зрэзы ведаў (узроўневыя тэсты, кантрольныя і пісьмовыя работы), анкетаванне педагогаў, вучняў і бацькоў, вывучэнне ўзроўню трывожнасці вучняў.

Аналіз урокаў дазваляе зрабіць выснову, што настаўнікі школы ўсё больш упэўнена выкарыстоўваюць магчымасці 10-бальнай сістэмы ў працы, павысілася аб'ектыўнасць ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў, устанавіўся псіхалагічна камфортны клімат на ўроках, знізіўся ўзровень трывожнасці вучняў, а значыць, настаўнікаў і бацькоў. У сваёй дзейнасці большасць настаўнікаў аддае перавагу асобасна арыентаванаму падыходу ў навучанні, усё часцей выкарыстоўваюцца элементы ўзроўневага навучання, што вельмі добра спалучаецца з 10-бальнай сістэмай.

Разам з тым, на думку настаўнікаў, сістэма мае шэраг недахопаў. У прыватнасці, на ўроках замежнай мовы выкарыстоўваюцца некаторыя віды моўнай дзейнасці (чытанне, пераклад і інш.), якія не прадугледжваюць творчага падыходу. Згодна з нормамі ацэнкі, вышэйшы бал за такі від работы атрымаць немагчыма. Гэтая праблема асабліва актуальная пры навучанні замежнай мове на пачатковым этапе. Недастаткова распрацаваны крытэрыі ацэнкі кожнага віду моўнай дзейнасці, пісьмовых работ. На ўроках матэматыкі бывае складана ацэньваць невялікія самастойныя работы, дзе правяраецца пэўны навык. Тлумачэнне крытэрыяў пры вусных адказах па рускай мове і літаратуры ў некаторых выпадках вельмі невыразнае. Напрыклад, як размежаваць "нязначныя недахопы" і "1-2 недакладнасці" і г.д.

Узнікаюць цяжкасці і пры выстаўленні падагульняючай адзнакі па прадметах з-за вялікага дыяпазону балаў, якія атрымлівае вучань. Мы спадзяемся, што пры дапрацоўцы крытэрыяў норм ацэнкі вучэбна-пазнавальнай дзейнасці школьнікаў гэтыя недахопы будуць ліквідаваны.

Павелічэнне шкалы ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў да 10 балаў дае магчымасць больш аб'ектыўна ацэньваць вучэбна-пазнавальную дзейнасць, улічваць індывідуальныя і асабістыя якасці, што, у сваю чаргу, забяспечвае развіццё ў школьнікаў эмацыянальнай устойлівасці, матывацыі да навучання. Пра гэта сведчаць вынікі дыягнастычных зрэзаў узроўню падрыхтоўкі вучняў 5–11 класаў па большасці прадметаў вучэбнага плана: калі ў кастрычніку 2000 г. узровень падрыхтоўкі складаў 90 працэнтаў, то ў маі 2001 г. – 98 працэнтаў. Адпаведна, з 54 да 62 працэнтаў павысіўся і паказчык якасці ведаў вучняў.

Аналіз анкетавання вучняў і бацькоў паказвае, што 76 працэнтаў вучняў і 84,5 працэнта бацькоў прынялі ўдасканаленую сістэму ацэнкі, лічаць, што яна садзейнічае ўліку ўкладзенай працы, дазваляе больш справядліва і дакладна ацэньваць веды. Прычым хацелася б адзначыць, што 10-бальная сістэма ў розных узроставых групах успрымаецца неадназначна: калі ў 5–8 класах яе прынялі да 95 працэнтаў вучняў, то ў 9–11 класах гэты паказчык вагаецца ад 40 да 60 працэнтаў у залежнасці ад тыпу класа (вышэйшы – у агульнаадукацыйных школах, ніжэйшы – у профільных і ліцэйскіх). Аднак, на нашу думку, сітуацыя будзе мяняцца ў бок прыняцця 10-бальнай сістэмы ў сувязі з пераходам ВНУ на аналагічную сістэму ацэнкі ведаў абітурыентаў.

У лютым 2001 г. у рамках гарадской праграмы "Школы кіравання" на базе нашай школы адбыўся гарадскі семінар-практыкум кіраўнікоў школ "Арганізацыя кіравання, педагагічнае забеспячэнне эксперыментальнай работы па ўдасканаленні сістэмы ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў 5–11 класаў. Удзельнікі семінара пазнаёміліся з дзейнасцю адміністрацыі школы, кіраўнікоў прадметных метадычных аб'яднанняў, класных кіраўнікоў па арганізацыі работы, наведалі ўрокі рускай і замежнай мовы, беларускай літаратуры, матэматыкі, гісторыі і геаграфіі, на якіх убачылі прымяненне 10-бальнай сістэмы на практыцы. Вынікам гэтага семінара стала ўключэнне ў работу па апрабацыі 10-бальнай сістэмы ўсіх педагагічных калектываў школ горада.

Такім чынам, вынікі I і II этапаў эксперыменту па апрабацыі 10-бальнай сістэмы ацэнкі сведчаць: настаўнікі-ўдзельнікі эксперыменту ўсведамляюць неабходнасць змены існуючай сістэмы ацэнкі, бо павелічэнне шкалы ацэнкі вучэбна-пазнавальнай дзейнасці школьнікаў да 10 балаў дасць магчымасць больш аб'ектыўна ацэньваць веды, уменні і навыкі, павысіць стымулюючую ролю адзнакі, улічваць індывідуальныя і асобасныя якасці кожнага вучня. Такое меркаванне ўсіх педагогаў. За 10-бальную сістэму – 76 працэнтаў вучняў і 85 працэнтаў бацькоў.

Значыць, 10-бальнай сістэме – быць!

**Любоў СЛЮСАРАВА,**
**дырэктар сярэдняй школы № 9 Слоніма.**

# Мастацтва разумець музыку

Усё пачынаецца з дзяцінства. Неба. Зямля. Пахі і гукі. Зразумелае і незвычайнае. І першыя творчыя ўзаеміны з рэчаіснасцю, першае дакрананне да загадкавага свету Прыгожага пачынаюцца ў дзяцінстве, у школе і на ўроках музыкі.

Любая прафесія мае свае асаблівасці. Ёсць свае сакрэты і ў настаўніцы музыкі сярэдняй школы № 1 Чавусаў Магілёўскай вобласці. Любоў да музыкі, імкненне аддаць сябе дзецям, вера ў тое, што без сапраўднай музыкі нельга стаць гарманічна развітым чалавекам, захопленасць сваёй справай – гэтымі пачуццямі жыве педагог–музыкант Валянціна Барысаўна Бачкарова.

Галоўную мэту сваёй работы Валянціна Барысаўна бачыць у фарміраванні ў вучняў музычнай культуры, асновай якой з'яўляецца мастацтва ўспрымання музыкі. Настаўніца за гады сваёй работы стварыла добрую фанатэку з запісамі музычных твораў розных жанраў. Для стварэння эмацыянальнага настрою яна ўмела падбірае ўрыўкі з літаратурных твораў, складае альбом, у якім разам з вучнямі запісвае вершы пра музыку, аб кампазітарах, музыкантах. У кабінеце музыкі ёсць яшчэ багатая калекцыя рэпрадукцый карцін вядомых мастакоў.

Валянціна Барысаўна прывучае сваіх выхаванцаў выказваць свае пачуцці, уражанні ад праслуханай музыкі рознымі спосабамі: у малюнках, прозе, вершах і г.д. Ужо назбіралася шмат цікавых творчых работ дзяцей.

Настаўніцу непакоіць бездухоўнасць часткі наша моладзі, рост насілля, жорсткасці, таму яна стараецца прадухіліць гэтую бяду праз далучэнне да духоўнай музыкі. Так, у 8–х класах у рамках тэмы "Пераўтваральная сіла музыкі" яна праводзіць урок "Забытыя старонкі рускай музыкі. Духоўная музыка".

Можна таксама адзначыць іншыя ўпадабаныя вучнямі ўрокі Валянціны Барысаўны – "Музычны вобраз космасу", "Чалавек – галоўны герой музыкі", "Што такое рок?", "Вобразы зямной прыгажосці ў музыцы С.В.Рахманінава", "Дзе твой дом, джаз?", "Драматургія вобразаў Дабра і Зла" і г.д.

Важнае месца ў музычным выхаванні В.Б.Бачкарова адводзіць развіццю спеўнай культуры вучняў, далучае іх да песеннай творчасці. Такую работу настаўніца праводзіць як на ўроках, так і ў вольную часіну.

Валянціна Барысаўна – нязменны кіраўнік ансамбля народнай песні "Калінка" (малодшыя і старэйшыя групы), які паспяхова выступае на раённых і абласных аглядах–конкурсах. "Ліся, песня" (І месца), "Таленты роднага краю" (І месца). Удзел ансамбля ў абласным фальклорным фестывалі "Васілёк" адзначаны дыпломам і памятным падарункам.

Настаўніца добра валодае рознымі музычнымі інструментамі. І навучае сваіх вучняў ігры на гітары, ды так, што калектывы вучняў і настаўнікаў у конкурсах турыстычнай і аўтарскай песень становяцца галоўнымі прызёрамі.

Валянціна Барысаўна – неўтаймоўны педагог, з задавальненнем дзеліцца сваімі знаходкамі з іншымі настаўнікамі, праводзіць адкрытыя ўрокі. Яна – кіраўнік раённага метадычнага аб'яднання настаўнікаў музыкі. Ёю падрыхтаваны цікавыя выступленні па актуальных тэмах: "Псіхолагапедагагічнае навучанне на ўроках музыкі", "Сучасныя патрабаванні да ўрока музыкі", "Знаёмства з методыкай Т.Баравіч" і г.д. У школе абагульнены вопыт работы В.Б.Бачкаровай па тэме "Эстэтычнае выхаванне на ўроках музыкі і спеваў".

Валянціна Барысаўна – душа калектыву. А пра вынікі яе работы з вучнямі лепш за ўсе кажуць яны самі:

– Пра музыку цяжка гаварыць, яе слухаць трэба.

– Урокі музыкі далі нам магчымасць зразумець жыццё. Некаторыя ж песні напамінаюць і пра асабісты лёс. А яшчэ музыка лечыць душу...

– На ўроках музыкі я зразумела, што ў кожнай песні, мелодыі ёсць нешта такое, што трэба разумець, – такое добрае, прыгожае...

Гэтыя па-дзіцячы непасрэдныя і ў той жа час сур'ёзныя выказванні выдатна характарызуюць яркі талент настаўніцы музыкі Валянціны Барысаўны Бачкаровай.

# Што такое рок?

***(урок-пытанне)***

**Мэта:** канкрэтызаваць веды вучняў пра рок–музыку; развіць пазнавальную цікавасць і культуру слыху; выхаваць крытычнае стаўленне да розных музычных з'яў.

**Матэрыял:** пласцінкі, магніт, запісы, фатаграфіі рок–гуртоў.

На дошцы запісана:

Рок (скала, уцёс, хістаць, трэсці)

1. "Рок–гатэль"
2. "Прыём"
3. "Арыэль" ("Маналог бомбы ў час падзення")
4. "Песняры" ("Ой, калядa")
5. "Кудлы"
6. "Учора" ("Бітлз")

Што такое рок?
Від мастацтва?
Жанр?
Стыль, плынь?
Асаблівасці: "знешнія", "унутраныя".
Стылі рок–музыкі.

**Ход урока**

Прывітанне. (Вучні ўвайшлі ў клас пад музыку арт–рока.)

– Думаю, вы звярнулі ўвагу на музыку, якая гучала перад урокам. Ці можна назваць яе рок–музыкай? (Так... Не...)

– Чаму? (Адказы розныя, але, як правіла, поўных і пераканаўчых няма.)

– Гэта была эстонская група "Рок–гатэль". Назва гаворыць сама за сябе. Не сакрэт, што многія вашы равеснікі, ды і людзі старэйшага пакалення, зусім адмаўляюць усю класічную музыку і лічаць сябе прыхільнікамі рок–музыкі. Хоць вельмі рэдка хто можа канкрэтна і дасведчана адказаць на пытанне, што такое рок–музыка. Сёняшні ўрок мы прысвецім пошуку адказу.

Слова "рок" вядома ў рускай мове даўно. Што яно азначае? Сінонімам можна лічыць слова "лёс", прычым з адценнем змрочнасці, трагічнасці. Прыгадаем, як пісаў М.Ю.Лермантаў пра забойцу вялікага А.С.Пушкіна ў вершы "Смерць паэта".

> Пустое сердце
> бьется ровно.
> В руке не дрогнул
> пистолет.
> И что за диво?..
> Издалека,
> Подобный сотням
> беглецов,
> На ловлю счастья
> и чинов
> Заброшен к нам
> по воле рока...

Хаця слова "рок" (у дачыненні да музыкі) і мае англійскае паходжанне (запіс на дошцы) і супадзенне з рускім словам (магчыма, выпадковае), але не пазбаўлена яно сэнсу.

Хіба не злы рок у асобе многіх заходніх гуртоў забівае ў чалавеку здольнасць нармальна адчуваць, мысліць? Рок–канцэрты часта ператвараюць маладых, здаровых і прыгожых юнакоў і дзяўчат у вісклівы натоўп з першабытнымі эмоцыямі. Часам рок–музыкі адкрыта заклікаюць да беспарадкаў, разбурэнняў, насілля.

> Я чувствую
> необходимость
> Увидеть
> твою смерть –
> Как тебе это
> нравится,
> Мой бывший друг?
> *("Мотархед")*
> Да здравствует медленная смерть!
> *("Металіка")*
> Бунтуй, впадай в ярость, насильничай,
> Не важно, во имя чего – главное, разрядись!
> *("Узбуджальнік")*

– А чаго варты адны назвы кампазіцый: "Атрута", "Выстралю табе ў спіну" *("Мотархед")*, "Дайце мне кулю", "Падонак" *("Эй–Сі–Ды–Сі")*, "Вампіры" *("Сектар Газа")* і г.д.

Слуханне рок–музыкі, нават без разумення сэнсу слоў, падобна на ўзаеміны са страшным ворагам або, што яшчэ горш, з фальшывым сябрам. (Музычны фрагмент.)

– Але ёсць і іншы бок гэтай музыкі – калі выкрываюцца заганы сучаснага грамадства, гучыць пратэст супраць насілля і зла, самаразбурэння, якое нясе ў сабе цывілізацыя. Прыкладам прагучыць кампазіцыя сучаснай рок–групы "Арыэль" "Маналог бомбы, якая падае".

– Над чым прымушае задумацца гэтая музыка? (Барацьба за мір.)

– Што ў ёй здаецца асабліва незвычайным, цікавым з пункту гледжання музыкі? (Фрагмент, які нагадвае старадаўнюю музыку ў момант гібелі зямлі.)

– Такім чынам, рок–музыка бывае рознай. Яна выконвае розныя ролі, мяняе маскі. Але што пад імі хаваецца?

– Перанясёмся ў думках у Паўночную Амерыку, у 50–я гады (указваю запісы на дошцы).

Вытокі рок–музыкі:

1. Кантры–энд–вестэрн (сентыментальнасць, музыка каўбояў).
2. Рытм–энд–блюз (энергічнасць, музыка неграў).
3. Рок–н–рол ("белы" рытм–энд–блюз).
4. Лірычная балада (у Англіі – гарадскі фальклор).

Зліццё ўсёй гэтай музыкі і дало нам рок! Адбылося гэта на пачатку 60–х у Ліверпулі (Англія). Самым яркім прадстаўніком новай музыкі стала група "Бітлз". Але трэба ўлічыць, што толькі ў Ліверпулі разам з "Бітлз" музіцыравала больш за 400 гуртоў. (Можна падрыхтаваць кароткае выступленне пра якую-небудзь групу, расказваюць вучні.) Слухаем "Учора" Пола Макартні і Джона Ленана.

Асаблівасці рок–музыкі:

*"знешнія":*
– навізна,
– прастата,
– пратэст,
– рытм часу,
– актыўны ўплыў на моладзь;

*"унутраныя":*
– электрамузычныя інструменты,
– біг–біт (вялікі ўдар),
– рыфы (кароткія пастарныя матывы),
– шаўт (выкрыкі),
– гучнасць,
– адзінства кампазіцый.

Кожная асаблівасць рок–музыкі мае два бакі: станоўчы і адмоўны. Напрыклад, актыўны ўплыў на моладзь – добра, калі змест разумны, без агрэсіўнасці. Але калі музыка заклікае да насілля – уплыў адмоўны.

– Знайдзіце заўсёды станоўчую асаблівасць рок–музыкі (рытм часу). А цяпер звярніце ўвагу на багацце стыляў рок–музыкі:

(+) хард, джаз, арт, авангардны, канцэптуальны, барока, псіхадэлічны, сімфа, софт, фолк (народная музыка);
(–) панк, дыска, хэві–метал, снід (хуткасць, гучнасць, віск), тэхна, рэп, хіп–хоп, еўрапоп, неграпоп, трэш (дрэнь).

Фолк–рок мае асаблівае значэнне для нас, бо славянскі рок – увогуле другасны. ("Песняры"). Аснова – музыка Заходняй Еўропы і ЗША.

На думку многіх знаўцаў, свае "слова" наша рок–музыка "сказала" толькі ў гэтым напрамку. Прапаную паслухаць фрагмент беларускай народнай песні "Ой, калядачкі".

Некаму, магчыма, гэтая музыка здалася не вельмі сучаснай і моднай, але затое на Захадзе няма нічога падобнага – там жа свой фальклор! Сучасны паэт Яўген Няфёдаў вельмі пераканаўча сказаў пра гэта ў вершы:

> Никто не против
> новизны,
> Но не забыть бы
> нам за нею
> Мир музыки
> родной страны,
> Который, право,
> не беднее.
> Не спрятать бы
> за словари
> Своих мелодий
> и традиций,
> Которым,
> что ни говори,
> Навеки
> не переродиться!
> Не упустить бы
> тот мотив,
> Где нам словарь
> совсем не нужен,
> На вещи
> лэйблы нацепив,
> Не поменять бы
> их на души!

А каб наша далучэнне да рок–музыкі было поўным, прымем удзел у выкананні песні "Хто з намі?" з групай "Арыэль" (іграю мелодыю, прашу звярнуць увагу на другі голас). Запіс.

– Дык што такое рок?

Адны вучоныя лічаць, што гэта асобны від мастацтва, які ўключае ў сябе і літаратуру, і сцэнаграфію, і спецыяльныя прыёмы, і, вядома, музыку. Другія сцвярджаюць, што рок–музыка – жанр, "востраў" у свеце музыкі. Але рок пранікае і ў іншыя жанры, напрыклад, рок–опера. Дык, можа, маюць рацыю тыя, хто лічыць рок проста плынню або стылем. (Уключаю музыку.)

Не шукайце дакладнага азначэння. Яго няма і быць не можа, як няма і не можа быць азначэння, што такое Музыка... Для кожнага яна – свой свет. І галоўнае – адчуваць, разумець, мысліць і любіць або... не любіць. (Музыка гучыць да канца.)

Дапаўненне (з газетнага артыкула):

Рытм можа мець наркатычную ўласцівасць. Калі ён роўны 1,5 ударам у хвіліну, пры магутным ціску звышнізкіх частот (15–30 герц), то здольны выклікаць у чалавека экстаз. Пры двух ударах у секунду – слухач упадае ў танцавальны транс, які падобны на наркатычны. На рок–канцэртах не рэдкімі бываюць кантузіі гукам, гукавыя апёкі, страта слыху, памяці, здольнасці арыентавацца, прымаць самастойныя рашэнні.

(10 хвілін слухання – і забываецца табліца множання, імя, прозвішча, год нараджэння. Чалавек разумова дэградуе.)

**Валянціна БАЧКАРОВА.**

